

***Віншуем чытачоў з Новым годам і Калядамі!***
***Жадаем аптымізму, бадзёрасці і плёну ў справах!***

**Рэдакцыя газеты “Дзвінскі ўзгорак”**





# Дзвінскі ўзгорак

***Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь***

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №18 (69)**
**СНЕЖАНЬ 2017 ГОДА**

**ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД**

## АКТЫВІСТА ЧАКАЕ СУД

**На кіраўніка ініцыятывы “Хайсы” склалі пратакол аб праваапарушэньні.**

7 сьнежня кіраўніца аддзелу ЖКГ Віцебскага раёну Кацярына Воінава склала пратакол аб адміністрацыйным правапарушэньні грамадзянінам Янам Дзяржаўцавым. Паводле пратаколу, актывіст парушыў правілы пахаваньня чалавечых парэшткаў, бо зьдзейсьніў пахаваньне ў месцы, не прызначаным для гэтага. Цяпер яго чакае суд.

Артыкул 23.43 КаАП, у парушэньні якога абвінавацілі кіраўніка грамадзянскай ініцыятывы “Хайсы”, прадугледжвае штраф у памеры ад пяці да дзесяці базавых велічыняў.

Нагодай для пачатку адміністрацыйнай справы супраць Яна Дзяржаўцава стала пісьмовае паведамленьне старшыні Мазалаўскага сельскага выканкаму Леаніда Дубіны ў Віцебскі райвыканкам. Спадар Дубіна паведаміў, што 9 лістапада на праваабарончым сайце “Віцебская вясна” ён прагледзеў відэаматэрыял, які паказвае працэс “самавольнага пахаваньня касцявых чалавечых парэшткаў у лясным масіве ля вёскі Хайсы” ў месцы, не прадугледжаным для гэткіх мэтаў заканадаўствам. Дзеля спраўджаньня інфармацыі кіраўнік сельскага выканкаму выяжджаў у лясны масіў, пасьля чаго і зьвярнуўся да раённай адміністрацыі з просьбай скласьці на грамадзяніна Яна Дзяржаўцава пратакол аб адміністрацыйным правапарушэньні.

Падзея, пра якую паведаміў раённым уладам Леанід Дубіна, адбылася 9 лістапада. Амаль месяц спатрэбілася, каб вызначыцца з контрмерамі. Аднак назваць іх канструктыўнымі не паварочваецца язык. Бо выходзіць: няхай лепш чалавечыя косткі валяюцца вакол раскапаных чорнымі капальнікамі ямінаў, чым будуць пахаваныя па-людзку ў тую зямлю, адкуль іх вынялі сапраўдныя парушальнікі закону, якіх ўлады нават не спрабуюць знайсьці.

Нягледзячы на тое, што адміністрацыйны працэс быў адкрытым, да ўдзелу ў ім не былі допушчаныя прадстаўнікі грамадзкасьці. Гэты факт быў адзначаны Янам Дзяржаўцавым у складзеным пратаколе. У якасьці прадстаўніка і абаронцы абвінавачанага ў правапарушэньні падчас складаньня пратаколу прысутнічаў яго сын, дыпламаваны юрыст Аляксандар Дзяржаўцаў.

Па складаньні пратаколу Яну Дзяржаўцаву было ўручанае прадпісаньне зьявіцца 12 сьнежня ў суд Віцебскага раёну.

**Яков Дрозд**

## ШТРАФ ЗА ГОДНУЮ СПРАВУ

**Суд Віцебскага раёну аштрафаваў кіраўніка грамадзянскай ініцыятывы “Хайсы” Яна Дзяржаўцава за самавольнае пахаваньне парэшткаў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў.**

Чалавечыя косткі, якія ён нібыта незаконна пахаваў, былі знойдзеныя ў лесе пасьля працы 52-га пошукавага батальёну.

Упарадкаваньнем і ўшанаваньнем месцаў масавых расстрэлаў ва ўрочышчы Хайсы грамадзкія актывісты займаюцца ўжо тры гады запар. За гэты час на ўзлеску і ў глыбіні лесу пастаўленыя больш за трыццаць крыжоў, зробленыя дзьве сымбалічныя магілы, у адной зь якіх пахаваная невялікая труна з чалавечымі косткамі, таму сёлетняе пахаваньне не было нечым надзвычайным. Што змусіла ўлады Віцебскага раёну распачаць адміністрацыйную справу, Ян Дзяржаўцаў ня ведае.

Першым парушэньне правілаў пахаваньня на тэрыторыі Мазалаўскага сельскага савету адзначыў яго кіраўнік Леанід Дубіна, пра што і паведаміў у райвыканкам.

7 сьнежня кіраўніца аддзелу ЖКГ Віцебскага раёну Кацярына Воінава афіцыйна зафіксавала ў пратаколе факт парушэньня артыкулу 23.43 КаАП грамадзянінам Янам Дзяржаўцавым.

Адміністрацыйнае правапарушэньне ў судзе Віцебскага раёну 20 сьнежня разгледзеў судзьдзя Міхаіл Зубеня. Ён не задаволіў хадайніцтва грамадзкага актывіста аб пераносе судовага пасяджаньня на іншы дзень у сувязі з тым, што адвакат спадара Яна ў гэты дзень браў удзел у іншым судовым працэсе. Пры гэтым судзьдзя нават не зьвярнуў увагу, што грамадзянін ужо заключыў з адвакатам пісьмовую дамову і аплаціў паслугі.

Асноўным доказам на судзе стала разьмешчанае ў сеціве відэа, якое фіксавала факт самавольнага пахаваньня парэшткаў. У выніку разьбіральніцтва судзьдзя палічыў факт парушэньня заканадаўства аб пахаваньні даказаным і вынес рашэньне пакараць Яна Дзяржаўцава штрафам памерам у 5 базавых велічыняў (115 рублёў).

Пасьля суду грамадзкі актывіст зазначыў:

– Ад таго, што працэс прайшоў у так званы Дзень чэкіста, непрыемна патыхае і змушае праводзіць сумныя паралелі. Замест таго, каб прызнаць расстрэльны лес месцам пахаваньняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў, улады цягнуць часі, па сутнасьці, рэпрэсуюць тых, хто намагаецца ўшанаваць памяць зьнішчаных за часамі сталінізму грамадзянаў.

Ян Дзяржаўцаў не пагадзіўся з вынесеным рашэньнем і зьбіраецца абскардзіць яго у судзе вышэйшай інстанцыі.

**Ян Сведка**

**МЯСЦОВЫЯ ЛІДЭРЫ**

## “Я БОРЮСЬ ЗА ПРАВА СЕЛЬЧАН”

**В деревне Суйково нет воды, а местных активистов заподозрили в «работе на американцев».**

Деревня Суйково под Витебском — одна из самых проблемных в регионе. По крайней мере, по рассказам местных жителей: в деревне почти нет ни воды, ни нормальной дороги.

Вода – да и то непитьевая – всего в одном колодце, а центральный водопровод проведен только к 35-ти из 113-ти дворов. Чтобы жителей услышали местные власти и чтобы все же изменить ситуацию в деревне Суйково на Витебщине, местная жительница Елена Янушковская начала сбор подписей за свое выдвижение в кандидаты в депутаты Витебского районного и Зароновского сельского советов.

«Я борюсь за права сельчан. Это самый незащищенный слой населения в нашей стране. Их права нарушаются ежедневно и постоянно. Я борюсь за достойную жизнь сельчан: водопровод у нас в деревне проводим, добиваемся уже 10 лет и результаты есть. Также дороги и другие социальные блага», — говорит активистка из деревни Суйково Елена Янушковская.

Елена Янушковская добивается, чтобы в селе люди жили не хуже, чем в городе. И в этом ее поддерживают. Члены Белорусской христианской демократии до сих пор помогали ей в решении местных проблем в различных инстанциях, а когда узнали, что Янушковская планирует выдвигаться в депутаты, — устроили пикет и начали помогать собирать подписи.

«Если сейчас отсылаются запросы по разным инстанциям просто как от гражданки (либо Елена собирает подписи от группы граждан), как депутат, она будет делать запрос в конкретную инстанцию, которая должна решить тот или иной вопрос», — отмечает Татьяна Северинец, член инициативной группы Елены Янушковской.

Вопросов же много. Например, почему в нескольких километрах от областного центра вместо асфальта — мокрый песок, по которому не проедет даже «скорая», а борьба за водопровод ведется вот уже седьмой год?..



«Повсюду проблемы. Теперь вот с водой — я не знаю уже, когда это закончится, сколько лет ждать», — рассказывает житель села Суйково.

За 10 лет переписок с чиновниками дело продвинулось: проложили триста метров заветного водопровода! Осталось проложить еще три с половиной тысячи метров…

Но воды и без того достаточно: после дождей урожай затапливают дожди и воде некуда стекать. Председатель Зароновского сельсовета Раиса Ерошкина, по словам сельчан, всю ситуацию видела собственными глазами.

«Она после говорит: ну, напишите, что у вас огород не затопило. Я говорю: вокруг дома нет воды пока, а об огороде я писать не буду, потому что там стоит вода», — говорит жительница села Суйково Мария Новодворская.

Ответить нашему телеканалу на вопрос, почему же чиновники не решают существующих проблем, председатель Зароновского сельсовета Раиса Ерошкина отказалась. Местные активисты столкнулись со сплетнями о работе на американцев и зарплатах в валюте.

«То есть я помогаю людям делать дороги по заданию американцев. Американцы же у нас хорошие такие, заботятся о деревне Суйково, что у нас нет воды, на дорогах люди ноги ломают», — говорит Янушковская.

Тем не менее, Елена Янушковская не сдается. Действительно, кто, как не местные, лучше всего знает о существующих проблемах?

**«Белсат»**

МЕМАРЫЯЛ

# ПАД ХАЙСАМІ АСЬВЯЦІЛІ КРЫЖЫ

**Крыжы асьвяціў пробашч віцебскай парафіі сьвятога Антонія ксёндз Вячаслаў Барок.**

У Вераб'ёвым лесе пад Хайсамі (Віцебскі раён) 9 сьнежня былі асьвечаныя крыжы, усталяваныя ў памяць бязьвінных ахвяраў, расстраляных на гэтым месцы ў 1937-1941 гадах катамі НКВД.

Удзельнікі асьвячэньня ўсклалі да падножжа крыжоў кветкі і запалілі сьвечкі. Гучалі шчырыя малітвы.

Зьвяртаючыся да бога, айцец Вячаслаў прасіў блаславіць крыжы, узьнесеныя на месцы зьдзяйсьненьня злачынстваў чырвонага тэрору.

– І няхай нашая вера ў валадарства Божае садзейнічае тому, каб наш сьвет адбудоўваўся да лепшага, каб будаваўся ён на падмурках праўды і справядлівасьці. Дазволь кожнаму, хто прыняў несправядлівую сьмерць і хто пахаваны ў гэтым лесе, дачакацца хвалебнага ўваскрашэньня, – прасіў сьвятар.

Маліўся таксама за ўсіх нашчадкаў. Каб мы, "будучы дзецьмі ахвяраў альбо дзецьмі катаў, навучыліся будаваць сваю будучыню на падмурках валадарства Божага, на каштоўнасьцях хрысьціянскай міласэрнасьці, любові і прабачэньня.

– Дазволь нам абраць лепшую будучыню! – маліўся ксёндз.

"Казаў, што ў лесе аж зямля варушыцца…"

Вераб'ёвы лес пад Хайсамі ўжо называюць "віцебскімі Курапатамі". Першыя крыжы паўсталі тут яшчэ ў 2014-м. Цяпер іх у "расстрэльным" лесе 34. Апошні вялікі крыж быў пастаўлены на ўскрайку лесу, яго добра відаць з трасы "Віцебск - Гарадок".

Віцебскі актывіст і стваральнік грамадзкай ініцыятывы "Хайсы" Ян Дзяржаўцаў, які зладзіў для ўдзельнікаў асьвячэньня крыжовую выправу па лесе, ня мае аніякіх сумневаў, што людзей тут забіваў менавіта НКВД.

Кажа, што за тры гады сабраў сьведчаньні ўжо 32-х мясцовых жыхароў. Адзін зь іх, Аляксей Нікіцін, падзяліўся ўспамінамі сваёй бабулі:

– Бабуля мая паўтары кілямэтры адсюль жыла. І распавядала, што кожную ноч тут чулася стральба. А дзед аднойчы прыйшоў з грыбоў і казаў, што ў лесе аж зямля варушыцца. Усе мясцовыя жыхары пра гэта ведалі, што энкавэдэшнікі тут расстрэльвалі, а ніякія ня немцы. Але людзі баяліся расказваць адзін аднаму. Калі толькі шэптам, каб дзеці ня чулі ды іншым, ня дай Божа, не распавялі. Баяліся, што таксама расстраляюць…

– І мы будзем дамагацца, каб дасьледавалі іншыя месцы, таму што тут вельмі шмат яшчэ чалавечых парэштак. Людзей закопвалі як сабак, – гаворыць Ян Дзяржаўцаў. Але з сапраўднымі навуковымі дасьледаваньнямі вялікая праблема. Пакуль што пахаваньні "дасьледуюць" адно "чорныя капальнікі" (вырытыя ў лесе ямы – зусім сьвежыя).

Што праўда, у 2015 годзе ў лесе працаваў 52-і пошукавы батальён, пасьля якога давялося зьбіраць чалавечыя парэшткі па ўсім лесе. Актывісты пахавалі іх у трунах каля трох вялікіх крыжоў, усталяваных у верасьні 2017 году. А ў сьнежні на Яна Дзяржаўцава, на падставе заявы старшыні Мазалаўскага сельсавета, быў складзены пратакол паводле артыкулу 23.43 КаАП ("Парушэньне заканадаўства аб пахаваньні").

– Мы пахавалі іх па-людзку. І вось за гэта мяне будуць судзіць. Але што б яны ні казалі і ні рабілі, мы працягваем выконваць свой хрысьціянскі абавязак. Будзе і на гэтую ўладу, я спадзяюся, Божы суд, – кажа Ян Дзяржаўцаў.

**Ян Сведка**

ЗА ЦВЯРОЗАСЦЬ

# КОГДА НАПРАВЯТ В ЛТП

**Судом Витебского района за 9 месяцев 2017 года рассмотрено 45 дел о направлении граждан в ЛТП**

Это на 10 дел меньше, чем за аналогичный период прошлого

Как рассказала помощник председателя суда Витебского района Ирина Кукишева, с целью соблюдения прав и интересов граждан законом установлено несколько условий, при одновременном наличии которых граждане могут быть направлены в ЛТП. Так, человек должен страдать хроническим алкоголизмом, наркоманией или токсикоманией; в течение года три и более раз привлекаться к административной ответственности за совершение административного правонарушения в алкогольном опьянении или в состоянии, вызванном потреблением наркотических, психотропных, токсических или других одурманивающих веществ.

В ЛТП могут быть направлены граждане, обязанные возмещать расходы, затраченные государством на содержание детей, находящихся на государственном обеспечении, в случае систематического нарушения трудовой дисциплины по причине злоупотребления алкогольными напитками или одурманивающими веществами.

— По закону не подлежат направлению в лечебно-трудовой профилакторий несовершеннолетние, мужчины старше 60 и женщины старше 55 лет, беременные, женщины, воспитывающие детей до одного года, инвалиды 1 и 2 групп, граждане, у которых выявлены заболевания, препятствующие их нахождению в ЛТП, — отметила Ирина Кукишева. — Наличие либо отсутствие заболевания хроническим алкоголизмом, наркоманией или токсикоманией, а также заболеваний, препятствующих его нахождению в ЛТП, устанавливается специальной медицинской комиссией в ходе освидетельствования.

Медицинское освидетельствование проводится дважды: после того, как гражданин трижды в течение года привлекался к административной ответственности за совершение административного правонарушения в состоянии алкогольного опьянения, или в состоянии, вызванном потреблением наркотических средств, психотропных, токсических или других одурманивающих веществ — для установления наличия заболевания; и если гражданин был предупрежден о возможности направления в ЛТП, но вновь совершил административное правонарушение — для подтверждения наличия заболевания хроническим алкоголизмом.

Вопрос о необходимости применения к гражданину принудительных мер лечения решается в каждом конкретном случае в зависимости от обстоятельств дела. При этом стоит отметить, что во многих случаях лица, подлежащие направлению в ЛТП, к моменту рассмотрения дела в суде проходят добровольное лечение, стремясь избежать направления на принудительное. В то же время сам факт прохождения лечения уже после совершенного правонарушения, последовавшего за предупреждением, не является безусловным основанием к отказу в удовлетворении требований органа внутренних дел о направлении лица в ЛТП. При таких обстоятельствах суд направляет лицо на повторное медицинское освидетельствование и по его результатам с учетом других обстоятельств дела выносит решение о направлении в ЛТП либо об отказе в удовлетворении таких требований.

**Елена Чаплева**
**"Жыццё Прыдзвіння"**

ЗДАРЭННЕ

# НА ТОНКІМ ЛЁДЗЕ

**У Віцебскім раёне праваліліся пад лёд і патанулі два рыбакі. Яшчэ адзін утапіўся ў Шумілінскім раёне.**

20 снежня тонкі лёд стаў прычынай гібелі адразу двух чалавек у Віцебскім і аднаго ў Шумілінскім раёнах. У Віцебскім раёне трагедыя адбылася на возеры Янавічскае.

Паводле інфармацыі АСВОД, у абодвух выпадках ахвярамі сталі аматары зімовай рыбалкі. З раніцы на азёрах працавалі вадалазы. Целы патанулых удалося падняць. Вячаслаў Горын, начальнік вадалазна-выратавальнай службы Віцебскай абласной арганізацыі АСВОД: «Пры неабходнасці выхаду на лёд пажадана мець з сабой выратавальныя сродкі. Такія як камізэлька і хаця б вяроўку. Паспрабавацъ утрымацца ад выхаду на лёд пры яго таўшчыні менш сямі сантыметраў».

Дарэчы, у Магілёўскай вобласці ўжо ўведзена забарона выхаду на лёд, пакуль яго таўшчыня не дасягне бяспечнага мінімуму.

Правіламі аховы жыцця людзей на водах Рэспублікі Беларусь (пункт 50) выхад на лёд забаронены ў перыяд ледаставу, калі таўшчыня лёду не дасягнула 7 сантыметраў, а таксама ў перыяд інтэнсіўнага раставання і разбурэння лёду.

**tvr.by**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

# "МЁРТВЫЯ ДУШЫ"

**Алена Янушкоўская з Віцебскага раёну мяркуе, што знайшла ў сваёй акрузе "мёртвыя душы".**

Алена Янушкоўская, кандыдатка ад Беларускай хрысціянскай дэмакратыі па Заронаўскай выбарчай акрузе мяркуе, што знайшла на сваё акрузе патэнцыйных «мёртвых душы», якія па жаданні ўладаў могуць быць выкарыстаныя для фальсіфікацыі вынікаў выбараў

Кажа Алена Янушкоўская:

«Вёска Баршчоўка Заронаўскага сельсавета ўваходзіць у маю акругу. 5 кіламетраў ад Віцебска, крыху далей, чым Суйкава. І ёсць тут адзін цікавы дом-прывід, дзе 4 сям'і жывуць дакладна, а на паперы жывуць у кожнай з 16-і прапісаныя. Належаў дом гаспадарцы „Пестуніца". Зараз, мяркуючы па ўсім, належыць Віцебскаму райвыканкаму, бо гаспадарка сканала. У гэтым доме... арэндныя жыллё. Яшчэ раз звярну ўвагу: занятыя 4 кватэры — 6 чалавек, адзін з іх інвалід-вазочнік. Прапісаныя ж людзі ў кожнай кватэры! Дом у аварыйным стане. Сельсавет маўчыць, робячы выгляд, што гэта яго аніяк не тычыцца. Райвыканкам у курсе і таксама вады ў рот набраў. Побач стаяў такі ж дом. Ферму закрылі, людзі параз'язджаліся ў пошуках працы, дом з-за адсутнасці рамонту разваліўся — і яго развалаклі на будматэрыялы. Такі ж лёс чакае і гэты дом-прывід.

Штодзённа людзі рызыкуюць жыццём. Пытанне аб прызнанні дома аварыйным падымалі людзі, я таксама спрычынілася да таго. Тады і даведалася, што ў доме, аказваецца, паўнютка людзей, нават прыватызаваныя кватэры ёсць. Ну, кажуць, людзей знайсці немагчыма (валанцёраў-пашукавікоў выклікаць?). А ларчык адчыніўся проста: недарэка-гаспадар хоча адказнасць за разбурэнне дома ўскласці на людзей, якія з'ехалі адсюль у пошуках працы і лепшай долі. Так было з маім зяцям, які раптам акпынуўся прапісаным у кватэры без вокнаў, дзвярэй. Яго вінавацілі, што ён, такі-растакі, давёў кватэру да нялюдскага стану і павінен усё ўзнавіць. Прыйшлося ўмяшацца і ратаваць справядлівасць.

...І тут я разумею з пункту гледжання магчымага кандыдата. Людзі ж прапісаныя, і яны выбаршчыкі. Іх няма, але яны ёсць... Як гэта можа быць выкарыстана падчас выбараў, здагадайцеся самі».

**Прэс-служба БХД**

## АБ'ЯВА

*Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Узгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.*

*Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".*

*Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*




ПАЛІТЫКА

# СПРАВА НЕ Ў НАРОДЗЕ, А ВА ЎЛАДЗЕ

**Колькі часу існуе цяперашні рэжым, столькі выказваецца думка, што праблема Беларусі — не ў Лукашэнку, а ў народзе. Маўляў, беларускае грамадства адрынае дэмакратычныя каштоўнасці. Народу патрэбна не свабода, а «моцная рука». На такія настроі электарату і абапіраецца Аляксандр Лукашэнка ў сваёй палітыцы.**




Вось толькі некалькі найбольш характэрных прыкладаў. Прафесар Рэдфардскага ўніверсітэта (ЗША) Грыгорый Ёфэ ў 2014 годзе апублікаваў кнігу «Пераацэньваючы Лукашэнку: Беларусь у культурным і геапалітычным кантэксце», у якой вельмі станоўча ацэньвае дзейнасць беларускага лідара. Галоўны аргумент, які вылучае Ёфэ, ствараючы станоўчы вобраз кіраўніка Беларусі, палягае ў тым, што той адлюстроўвае памкненні, настроі, жаданні, думкі свайго грамадства. Маўляў, іншай палітыкі ён і не мог праводзіць, і калі ў нечым і памыляецца, дык разам з народам…

Былы памочнік Аляксандра Лукашэнкі, а цяпер амбасадар Беларусі ў Кітаі Кірыл Руды ў нядаўнім артыкуле піша: «Нам трэба раскадаваць грамадства. У нас ёсць культурныя бар'еры, якія тармозяць эканоміку: спажывецкае стаўленне да інвестараў, да дзяржавы і адзін да аднаго, прыярытэт роўнасці над багаццем, арыентацыя на савецкае мінулае, гігантаманія, матывацыя пагрозамі (заклік да інстынктаў, а не да здаровага сэнсу), ухіленне ад адказнасці і балючых рашэнняў».

Безумоўна, нельга адмаўляць прыхільнасць значнай часткі беларусаў да недэмакратычных, патэрналісцкіх каштоўнасцяў… І «праект Лукашэнкі» — гэта кансерватыўная рэакцыя беларускага грамадства на выклікі мадэрнізацыі і глабалізацыі, бунт супраць дэмакратычных каштоўнасцяў. Можна пагадзіцца, што ў рамках гэтай сацыяльнай мадэлі значная частка насельніцтва адчувала, дый цяпер адчувае, псіхалагічны камфорт.

Па-першае, спасылка на народ — не ёсць гістарычным апраўданнем. Мы ведаем шмат прыкладаў, калі дыктары, якія прыводзілі свае народы да трагедыі, былі дэмакратычна выбраныя і шмат гадоў мелі шырокую падтрымку насельніцтва, адлюстроўвалі яго настроі.

Калі казаць пра Беларусь, то беларуская сацыяльная мадэль, у свой час падтрыманая народам, прывяла да відавочнага крызісу. Атрымалася, што лідар, няхай сабе і абапіраючыся на большасць насельніцтва, прывёў краіну ў гістарычны тупік.

Лідар нацыі, асабліва той, які кіруе краінай больш за 20 гадоў, і ўжо адным гэтым фактам прэтэндуючы на адметнае месца ў гісторыі сваёй краіны, павінен мець больш шырокі гарызонт, перспектыўнае бачанне будучыні соцыуму. Ён мусіць быць хоць бы ледзь-ледзь разумнейшы за сярэднестатыстычнага грамадзяніна, умець вызначаць дамінуючую грамадскую тэндэнцыю, пралічваць сітуацыю хаця б на адзін ход наперад, бачыць карэнныя, доўгатэрміновыя, а не толькі імгненныя інтарэсы дзяржавы і грамадства. Калі палітык па прастаце душэўнай літаральна паўтарае тое, што думае шараговы абывацель, падкрэсліваючы пры гэтым, што ён кажа ад імя народа, — дык гора таму народу.

У апошнія дзесяцігоддзі рынак і дэмакратыя паспяхова зацвердзіліся ў шмат якіх рэгіёнах свету: у Лацінскай Амерыцы, Азіі. Вельмі паказальнай з'яўляецца гісторыя развіцця дзвюх Карэй. Паўднёвая Карэя — устойлівая і квітнеючая краіна з рынкавай эканомікай і дэмакратый. Паўночная Карэя — убогая, карыкатурная, але праз гэта не менш жудасная дыктатура, дзе людзі паміраюць з голаду. А гэта ж адзін народ, з адны менталітэтам.

Гэты прыклад падштурхоўвае да простай высновы: з адным і тым жа народам можна рэалізаваць розныя мадэлі развіцця. І дыктатарскі рэжым валодае вялікімі магчымасцямі зацвердзіць той лад, які выгадны яму.

І, дарэчы, дзяржаўны патэрналізм любяць не толькі ў Беларусі, але, напрыклад, у дэмакратычнай Еўропе. Напрыклад, у Францыі дасюль працоўнае заканадаўства фактычна забараняла звальненне наёмнага работніка без яго згоды. Гэта моцна перашка-джала развіццю бізнесу. Розныя ўрады некалькі разоў спрабавалі лібералізаваць працоўнае заканадаўства, але прафсаюзы выводзілі на вуліцы з пратэстам сотні тысяч людзей — і кожны раз урад адступаў. Толькі папярэдні прэзідэнт Франсуа Аланд праявіў настойлівасць і, нягледзячы на пратэсты, страйкі нават падчас мінулагодняга Чэмпіянату Еўропы па футболе, змог давесці справу да канца. Праўда, гэта каштавала Аланду пасады прэзідэнта, бо ягоны рэйтынг упаў настолькі нізка, што ён вырашыў не балатавацца на новы тэрмін. То бок, халяву любяць усе. Таму Беларусь — не такі ўжо вялікі эксклюзіў.

Па-другое, беларускае грамадства вельмі неаднароднае, глыбока расколатае. Сацыялагічныя апытанні паказваюць, што каля траціны беларусаў прытрымліваюцца ўстойлівых дэмакратычных каштоўнасцяў. Але Лукашэнка абапіраецца не на гэту частку электарату. Наадварот, якраз з такімі сацыяльнымі слаямі ўлады ўпарта змагаюцца, іх ізалююць, заганяюць у гета. Існы рэжым абапіраецца на людзей з недэмакратычнымі каштоўнасцямі. Гэта яго свядомы палітычны выбар. Важным элементам дзяржаўнай палітыкі з'яўляецца штучная кансервацыя і архаізацыя грамадства, апеляцыя да патрыярхальнай свядомасці, апора на пенсіянераў, людзей з невысокай адукацыяй, нізкай кваліфікацыяй, якія пражываюць у вёсцы, маленькіх гарадах. У гэтым кансерватыўнай мадэлі галоўнай каштоўнасцю з'яўляецца стабільнасць, а не развіццё.

Па-трэцяе, Лукашэнка выконвае не проста функцыю люстэрка, рупара, ён не адно толькі механічна адлюстроўвае погляды свайго электарату. Прэзідэнт выступае своеасаблівым рэтранслятарам, які адпраўляе назад свайму электарату недэмакратычныя каштоўнасці ва ўзмоцненым выглядзе. А дзяржаўныя СМІ, у першую чаргу тэлебачанне, даводзяць гэты працэс да лагічнага канца.

Па-чацвёртае, узнікае натуральнае пытанне: а ці ёсць цяпергэтаяпралукашэнкаўская, антырынкавая, антыдэмакратычная большасць? Вызначыць гэта можна толькі ва ўмовах дэмакратыі, свабоднай канкурэнцыі ідэй і палітычных сіл, дэмакратычных выбараў. Гэтага ў Беларусі даўно няма…

І затым, нават дамінаванне патэрналісцкіх каштоўнасцяў зусім не азначае, што беларусы не хочуць дэмакратыі. Правядзіце сацыялагічнае даследаванне і спытаеце людзей, ці жадаюць яны, каб выбары былі свабоднымі і дэмакратычнымі, каб яны мелі магчымасць выбіраць прэзідэнта і дэпутатаў, каб іх галасы лічылі? Як вы думаеце, ці знойдзецца шмат дзівакоў, якія скажуць: не, мы хочам, каб выбары фальсіфікаваліся? ..Таму, падводзячы вынікі, трэба казаць, што перашкодай на шляху дэмакратычнай трансфармацыі Беларусі з'яўляецца не столькі народ, колькі існы палітычны рэжым. Маніпулюючы грамадскімі настроямі, ён узурпаваў права гаварыць ад імя народа, а насамрэч больш заклапочаны захаваннем уласнай улады. Справа не столькі ў народзе, колькі ў тых, хто імі кіруе.

Пры іншай уладзе, але з гэтым самым насельніцтвам, Беларусь магла б стаць рынкавай, дэмакратычнай і еўрапейскай краінай.

*(скарочана)*

**Валеры Карбалевіч**
**"Новы Час"**

ТЫРАНЫ

# «ГИТЛЕР СЖИРАЛ ВСЕ-ТАКИ ЧУЖИЕ НАРОДЫ, А НЕ СОБСТВЕННЫЙ»

**21 декабря 1879 года родился один из величайших злодеев в истории мира, по крайней мере, на мой взгляд, звали его Иосиф Виссарионович Джугашвили, он был известен как Сталин.**

Люди, ненавидевшие его, сравнивали и сравнивают его с Гитлером, и совершенно напрасно. Гитлер, конечно, был злодеем, тут спора нет, можно сказать, людоедом. Но он сжирал все-таки чужие народы, а не собственный. Он повинен в убийстве 6 миллионов евреев, он повинен в гибели миллионов людей на фронтах войны, он повинен в гибели определенного количества немцев, которые придерживались иных политических взглядов, и понятно — ему нет прощения, и никогда не будет. Но надо признать, что Гитлер не истреблял все-таки собственный народ — в отличие от Сталина.

Трудно сосчитать, в погибели скольких миллионов советских людей виноват Сталин. Известно, что лагерей в Советском Союзе было значительно больше, чем концлагерей в Германии или в Польше.

Поклонники Сталина — их немало, между прочим — говорят о том, что именно он превратил Советский Союз в индустриальную державу и именно благодаря ему Советский Союз победил в войне. Это, мягко говоря, заблуждение. Сталин, вообще говоря, своей насильственной коллективизацией уничтожил в стране крестьянство, в результате чего страна, которая когда-то экспортировала зерно, стала импортировать его, стала страной вечных очередей, страной недоедания, страной дефицита — это результат того, что он делал.

А что касается индустриализации, то какой ценой? Сколько людей работали как рабы, я имею в виду зеков, которые строили так называемые замечательные стройки социализма? Сколько там погибло людей ради этой самой индустриализации?

А что касается войны, то есть две очень яркие цифры. Германия, воюя на два фронта, потеряла 7-10 миллионов человек. Советский Союз, воюя на одном, потерял 27 миллионов, почти в 3 раза больше. А почему? Да потому что Сталин совершенно не готов был к этой войне, и именно эти огромные потери произошли в начале войны.

А кто победил? А победил народ, и, конечно, победили замечательные маршалы, такие как Жуков, как Конев, как Рокоссовский. Но все-таки самое страшное, что сотворил Сталин, — это с самим народом. Что он сделал из этого народа?

Я хотел бы вам прочитать маленький отрывок из замечательной пьесы Евгения Шварца «Дракон», как раз на эту тему. Вот на площади встретились Дракон и рыцарь Ланцелот.

Дракон: «Мои люди очень страшные, таких больше нигде не найдешь — моя работа, я их кроил».

Ланселот: «И все-таки они люди».

Дракон: «Это только снаружи».

Ланселот: «Нет».

Дракон: «Если бы ты увидел их души, ох, задрожал бы».

Ланселот: «Нет».

Дракон: «Убежал бы даже. Не стал бы умирать из-за калек. Я же их, любезный мой, лично покалечил, как требуется, так и покалечил. Человеческие души, любезный, очень живучи. Разрубишь тело пополам — человек околеет. А душу разорвешь — станет послушнее, и только. Нет-нет, таких душ нигде не подберешь, только в моем городе. Безрукие души, безногие души, глухонемые души, цепные души, легавые души, окаянные души, дырявые души, продажные души, мертвые души. Нет-нет. Жалко, что они невидимы».

Это про нас с вами, уважаемые дамы и господа. И пока мы как народ не признаем именно это, не извергнем из своих душ наследие дракона, то не будет ни толку, ни счастья. По крайней мере, так думаю я. А вы?

**Владимир Познер**
**pozneronline.ru**

СПРАВА КОРЖЫЧА

# «НІ СЛОВА ПРА ПАБОІ НА ЦЕЛЕ САШЫ»

**Сьвятлана Коржыч, маці салдата Аляксандра Коржыча, які загінуў у вайсковай частцы ў Печах пад Барысавам, расказала сайту «Медиа-Полесье», што сустракалася з кіраўнікамі пракуратуры і Сьледчага камітэту, прысутнічала на некаторых допытах, і фігуранты справы пачалі даваць паказаньні.**

«Пасьля неаднаразовых патрабаваньняў мне паказалі вынікі судмедэкспэртызы, — кажа Сьвятлана Коржыч, — там ні слова пра пабоі на целе Сашы. Копію судмэдэкспэртызы мне на рукі даць адмовіліся, яе вынікі мяне не задавальняюць. І я буду настойваць на правядзеньні паўторных экспэртыз, усе бачылі, што ён быў зьбіты».

Сьвятлана Коржыч таксама паскардзілася, што ні ваенкамат, ні органы ўлады за гэты час ні разу не пацікавіліся, як жыве яна і яе маці. «Мы засталіся адны з мамай: мне 52 гады, маме пад 80 гадоў».

Цела салдата тэрміновай службы Аляксандра Коржыча знайшлі 3 кастрычніка ў падвале вайсковай часткі ў Печах пад Барысавам. Паводле праверкі, якую правялі ў вайсковай частцы, прычынай сьмерці салдата нібыта стала самагубства. Але сваякі і сябры Аляксандра Коржыча з гэтай вэрсіяй не пагадзіліся і перадалі ў рэдакцыю Свабоды фатаздымкі ягонага цела са сьлядамі прыжыцьцёвых траўмаў.

13 кастрычніка Сьледчы камітэт выступіў з афіцыйнай заявай для прэсы. Паводле прадстаўніка Сьледчага камітэту Сяргея Кабаковіча, цела Коржыча каля 17 гадзіны 3 кастрычніка знайшлі «ў пятлі з мацерчатай папругі для штаноў, прымацаванай свабодным канцом да мэталічнай арматуры пад стольлю падвала, зь перавязанымі шнурком абутку нагамі і надзетай на галаву майкай».

Справа выклікала вялікі рэзананс у грамадзтве і шэраг зьменаў у беларускім войску.

**У вайсковых частках усталявалі відэаназіраньне**

Пра тое, што на тэрыторыі Печаў будуць усталяваныя камэры відэаназіраньня, 5 лістапада сказаў міністар абароны Андрэй Раўкоў.

«Гэта дапаможа дзяжурным па школах у поўным аб'ёме кантраляваць сытуацыю. Ужо ня будзе такіх месцаў, якія дазволяць старослужачым салдатам нешта там нядобрае рабіць. У нас у многіх вайсковых частках відэаназіраньне ўжо ўсталяванае, вядзецца ў плянавым парадку», — сказаў Раўкоў. Аднак суразмоўцы Свабоды зь ліку служачых вучэбкі ў Печах ацэньваюць такую меру скептычна. Маўляў, камэры паўсюль усё адно ўсталяваць немагчыма, і няма гарантыі, што асобы, якія будуць праглядаць відэазапісы, стануць апэратыўна дакладваць кіраўніцтву пра ўсе заўважаныя парушэньні статуту.

У сярэдзіне лістапада ў Печы прыбылі навабранцы, большасьць «старых» вайскоўцаў (у тым ліку і Коржычавы таварышы па службе) разьехаліся па новых частках.

**Салдатам дазволілі мабільныя тэлефоны без інтэрнэту і камэры**

Аднак толькі самых простых мадэляў (кнопачныя, бяз доступу ў інтэрнэт і фатакамэры) і выключна ў адведзены для гэтага час.

Раней карыстацца мабільнікамі вайскоўцы таксама маглі, у тым ліку навабранцы з «вучэбкі». Аднак усе тэлефоны мусілі захоўвацца ў адмысловым месцы, салдатам іх выдаваў звычайна сяржант.

Новаўвядзеньне можна патлумачыць ня толькі жаданьнем кіраўніцтва часткі спрасьціць для вайскоўцаў камунікацыю з роднымі і сябрамі. Родныя загінулых у войску салдат ня раз казалі, што мабільны тэлефон у арміі часта станавіўся прадметам гандлю і вымагальніцтва з боку старослужачых. Ім дазвалялі карыстацца толькі за грошы.

Некаторыя вайскоўцы, якія прайшлі праз «вучэбку» ў Печах, згадваюць пра «выкупляньне» ўласных тэлефонаў у сяржантаў.

**У Печах зьявіліся новыя сяржанты**

Пра гэта стала вядома ў сярэдзіне лістапада. Родныя загінулых вайскоўцаў ня раз сьведчылі, што сыстэма нестатутных адносінаў трымаецца акурат на паводзінах сяржантаў.

Большасьць з 15 затрыманых па справе Аляксандра Коржыча — акурат сяржанты. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, усе яны служылі ў 3-й і 307-й школе, а затрыманьні адбываліся на працягу некалькіх тыдняў пасьля сьмерці вайскоўца.

Тым часам сама менш аднаго з затрыманых па справе аб гібелі Коржыча звольнілі з Узброеных сіл. Гаворка пра Артура Вірбала, абвінавачанага ў махлярстве (у яго знайшлі картку Коржыча). Як стала вядома Свабодзе, ён быў звольнены з арміі ў запас 9 кастрычніка, яшчэ да затрыманьня і зьмяшчэньня пад варту.

**Сьледчы камітэт распачаў дадатковую праверку ўсіх няшчасных выпадкаў у войску за апошнія 6 гадоў**

«Не выключаю, што ў некаторых выпадках рашэньні адмовіць у завядзеньні крымінальнай справы або спыніць заведзеныя справы будуць скасаваныя, каб інача паглядзець на тую ці іншую сытуацыю», — сказаў старшыня Сьледчага камітэту Іван Наскевіч.

Як сказала Свабодзе маці Арцёма Басьцюка, знойдзенага павешаным у барысаўскай вайсковай частцы за 6 месяцаў да сьмерці Коржыча, расьсьледаваньне справы аб сьмерці сына насамрэч аднавілі.

Сям'я Басьцюка ўжо сустракалася з новым сьледчым. Аднак на пэрспэктывы расьсьледаваньня Басьцюкі глядзяць скептычна.

«Мы бачыліся зь ім адзін раз за месяц, які прайшоў з моманту аднаўленьня справы. І, ведаеце, вялікіх надзей сустрэча не прынесла», — кажа Тацяна Басьцюк.

Па яе словах, новае расьсьледаваньне працягнецца да канца студзеня. Калі ня будзе знойдзена новых доказаў, што сьмерць Арцёма Басьцюка мела гвалтоўны характар, справу зноў могуць закрыць.

**https://www.svaboda.org**

ВЯСКОВЫ ГАНДАЛЬ

# ВЯСКОЎЦЫ АБУРАНЫЯ ЗАКРЫЦЦЁМ КРАМАЎ

**У розных рэгіёнах Беларусі закрываюцца вясковыя крамы. Спажывецкае таварыства тлумачыць людзям, што ў малых паселішчах краму ўтрымліваць нявыгадна. У некаторых вёсках людзі пратэстуюць, пасьля чаго ўлады вымушаныя крамы адкрываць. Вялікі рэпартаж Свабоды.**

Замест стацыянарных гандлёвых пунктаў у малыя вёскі тры разы на тыдзень прыяжджаюць аўтакрамы спажывецкага таварыства. Аднак вяскоўцы кажуць, што гэта вельмі нязручна. Сярод іх шмат пэнсіянэраў, якія мусяць чакаць на холадзе аўтакраму, што прыяжджае паводле пэўнага раскладу.

**Івацэвіцкі раён. Вяскоўцы пра нерэнтабэльнасьць крамы: «Плацяць па 200 рублёў пэнсіі — што мы за іх можам купляць?»**

Карэспандэнты Свабоды наведалі вёску Гічыцы Івацэвіцкага раёну. Тут, за 10 кілямэтраў ад райцэнтру, жыве больш за 100 чалавек. Нядаўна тутэйшую краму закрылі. Старых пакінулі бяз крамы, бо не куплялі гарэлку

Калі журналісты падышлі да аўтакрамы, каля якой сабраліся вяскоўцы, старыя людзі пачалі абурацца, апэлюючы да Лукашэнкі.

«Трэба Лукашэнку сказаць, каб загнаў нас у хлеў ды запаліў. Ды ня трэба будзе ні пэнсію плаціць, нічога... Сто чалавек яшчэ ў сяле, і каб крамы не было!» — скардзіцца бабуля.

Жыхары Гічыц расказалі, што ў вёсцы ёсьць і кандыдатура прадавачкі ў краму, яна гатовая працаваць і за невялікія грошы. Але краму ўсё адно закрылі…

**Бярозаўскі раён. Пасьля збору подпісаў краму паабяцалі адкрыць, калі знойдуць прадаўца**

У вёсцы Жычын Бярозаўскага раёну пражывае больш за 80 чалавек, у асноўным пэнсіянэры. Краму тут закрылі 26 кастрычніка.

Мясцовы дэпутат Першамайскага сельсавету, сябра аргкамітэту партыі БХД Валер Білібуха сабраў подпісы жыхароў Жычына і накіраваў зварот у Бярозаўскі райвыканкам.

«Мы, у большасьці пэнсіянэры, павінны стаяць на холадзе з хворымі нагамі па некалькі гадзін, каб купіць набор няхітрых прадуктаў. Няўжо мы не заслужылі ў дзяржавы годнага сацыяльнага абслугоўваньня?» — запыталіся сяляне.

Мясцовыя ўлады правялі ў Жычыне сход, дзе патлумачылі людзям, што крама закрытая, бо няма кандыдатуры прадаўца.

На сходзе пэнсіянэры называлі і яшчэ адну нязручнасьць аўтакрамы: «Калі забыўся нешта купіць, то ўжо ня вернесься ды ня купіш».

Неўзабаве дэпутату Білібуху прыйшоў і адказ з райвыканкаму, дзе патлумачылі, што калі знойдуць прадаўца, то краму адкрыюць. «Так бы ціхенька ўсё і прайшло б. Закрылі — і ўсё, хадзіце да аўтакрамы. Я ж буду сачыць за сытуацыяй і дабівацца, каб стацыянарная крама ў Жычыне адкрылася», — сказаў Свабодзе Білібуха….

**Колькі вясковых крамаў закрылі па краіне?**

Белкаапсаюз (Белспажыўсаюз), які аб'ядноўвае рэгіянальныя спажывецкія таварыствы, — гэта самая буйная гандлёвая сетка краіны. Летась ёй споўнілася 100 гадоў. Гэтую структуру называюць найбуйнейшым дзяржаўным рытэйлерам — яна мае 8,1 тысячы крамаў, сярод іх 6,9 тысячы — харчовых і зьмяшанага асартымэнту. Амаль 70% іх — у сельскай мясцовасьці. 704 аўтакрамы дастаўляюць тавары жыхарам больш як 14,4 тысячы маланаселеных вёсак, дзе няма стацыянарных крамаў.

Пытаньне Свабоды пра колькасьць крамаў, закрытых у Беларусі за апошнія два гады, у Белкаапсаюзе праігнаравалі.

Там паведамілі, што сытуацыю рэгулюе пункт 40 Сыстэмы дзяржаўных сацыяльных стандартаў па абслугоўваньні насельніцтва ў галіне гандлю, грамадзкага харчаваньня і бытавога абслугоўваньня, якая зацьверджаная пастановай Саўміну.

Паводле гэтага дакумэнту, калі ў вёсцы жыве меней за 200 чалавек, то яе гандлёвае абслугоўваньне забясьпечваюць аўтакрамы і «іншыя нестацыянарныя гандлёвыя аб'екты» альбо крамы ў бліжэйшых населеных пунктах.

«Аўтакрамы прымаюць папярэднія замовы на тавары. Пэрыядычнасьць і маршруты руху аўтакрамаў узгадняюцца мясцовымі сельсаветамі і райвыканкамамі», — паведамілі ў Белспажыўсаюзе.

У Белкаапсаюзе прывялі такія прыклады ліквідацыі вясковых крам: Бярозаўскае райпо зачыніла адну краму — у вёсцы Карпяшы, дзе жывуць 82 чалавекі. Ганцавіцкае райпо зачыніла адну краму — у вёсцы Новыя Агарэвічы, дзе жыве 91 чалавек. Івацэвіцкае райпо зачыніла 3 крамы — у вёсках Запольле (84 жыхары), Сярадава (100 жыхароў), Кушняры (68 жыхароў).

**Аптымізацыя гандлёвай сеткі і карупцыйныя скандалы**

У мінулым годзе Свабодзе паведамілі ў Белкаапсаюзе, што больш за 1000 крамаў працуе ў населеных пунктах з колькасьцю жыхароў менш за 100 чалавек. З улікам нізкага аб'ёму таваразвароту такіх крамаў і значных выдаткаў на іх утрыманьне (будынкі, заработная плата прадаўца, транспартныя выдаткі па дастаўцы тавараў) сярэднямесячныя страты на адзін аб'ект складалі ад 5 да 7 мільёнаў недэнамінаваных рублёў.

У Белкаапсаюзе паведамілі, што з прычыны скарачэньня вясковага насельніцтва «праводзіцца праца па аптымізацыі стратнай гандлёвай сеткі».

Кіраўнік краіны Аляксандар Лукашэнка ў леташнім пасланьні беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу заявіў: «Калі Белкаапсаюз не дакажа сваёй дзеяздольнасьці, рыхтуйцеся да сур'ёзнай рэформы».

Рэформа не адбылася, але ўжо сёлета Лукашэнка даў зялёнае сьвятло для сельскай экспансіі кіраўніку ААТ «Тытунь-інвэст» і сеткі гіпэрмаркетаў «Карона» Паўлу Тапузідзісу.

Праўда, пры гэтым адзначыў, што «мы не павінны замяняць адну сетку іншай. Бо Белкаапсаюз — гэта сёньня развітая структура на сяле».

Цяпер «Белкаапсаюзам» кіруе Валеры Іваноў. Да яго гэтую пасаду займаў Сяргей Сідзько, якога ў 2015 годзе Вярхоўны суд пакараў за хабар і злоўжываньне ўладай 12 гадамі турмы. У красавіку гэтага году ў Менску быў затрыманы першы намесьнік старшыні Белкаапсаюзу Дзьмітры Баранаў «у рамках расьсьледаваньня крымінальнай справы аб карупцыі».

**«Трэба Лукашэнку сказаць, каб загнаў нас у хлеў ды запаліў. Ды ня трэба будзе ні пэнсію плаціць, нічога... Сто чалавек яшчэ ў сяле, і каб крамы не было!» — скардзіцца бабуля.**

***Алесь Дашчынскі***

**https://www.svaboda.org**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 28.12.2017 у 19.20
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.